ГАЗЕТА З БЕЛАРУСІ

# ГОЛАС РАДЗІМЫ

ВЫДАЕЦЦА З 1955 ГОДА ● ● NO.9 (31288) ● ● ЧАЦВЕР, 12 сакавіка, 2009

ШТОТЫДНЁВІК "ГОЛАС РАДЗІМЫ" МОЖНА ЧЫТАЦЬ У ІНТЭРНЭЦЕ: WWW.GOLAS.BY



**Адчуванне душэўнай цеплыні**

Малдаўская дыяспара ў Беларусі адзначыла нацыянальнае свята надыходу вясны — Мэрцішор Стар. 2



**Зацікавіла спадчына** Стар. 3



**Кветкі ўпрыгожылі свята**

На выставе да Дня жанчын, якая працавала ў Гродне, расцвіталі тысячы фіялак Стар. 4

# Старэй на тры стагоддзі?

## Навукоўцы аднавілі аблічча гістарычнага квартала Мінска

Наталля Пісарава

Старажытная вуліца прыкладна XII–XIII стагоддзяў была выяўленая глыбока пад зямлёй у панадворку будынка на сучаснай вуліцы Кірылы і Мяфодзія, 8. Яна існавала на гэтым месцы аж да XVI стагоддзя. І знікла толькі, калі кляштар бернардзінцаў выкупіў цэлы квартал — тэрыторыю, цяпер абмежаваную вуліцамі Гандлёвая, Герцэна, Кірылы і Мяфодзія. На жаль, у пісьмовых крыніцах яе назва не захавалася. Але засталося згадванне аб тым, што тут некалі жылі мінскія мяшчане.

Межы вуліцы можна вызначыць па слядах, якія засталіся ад слупковых ям і платоў. У зямлі знайшлі і водаадліўныя прылады, якія служылі дажджавой каналізацыяй. Сабрана цэлая калекцыя, у якой больш за 800 каштоўных рэчаў, сярод якіх і княжыя пячаткі, і жаночыя ўпрыгажэнні, і ключы ад дамоў. Да пары да часу яны будуць захоўвацца ў Інстытуце гісторыі Нацыянальнай акадэміі навук, а потым частку перададуць у музей Мінска (яго плануецца пабудаваць). Калі культурны пласт таго перыяду не парушаны, то археолагі прадоўжаць раскопкі вясной.



АЛЯКСАНДР РУЖАЧКА

Кожная знаходка — каштоўная інфармацыя для вучоных-археолагаў



АЛЯКСАНДР РУЖАЧКА

Гэтыя прадметы знойдзены ў далёкім мінскім мінулым

На новых знаходках вучоныя звяраюць гістарычныя "гадзіны". Калі раней лічылася, што Верхні горад стаў "жылым" у XV стагоддзі, то цяпер пераводзіць "стрэлкі" можна на 3 стагоддзі назад. Даўно было вядома, што ў цэнтры горада, непадалёк ад цяперашняй станцыі метро "Няміга" стаяла замчышча-крэпасць. Але выявіць пасады, ці жылыя прадмесці XI–XIII стагоддзяў — такое доўгі час не атрымоўвалася.

— Мінск вядомы з таго часу, як адбылася бітва на Нямізе і паўднёварускія князі разбурылі горад, — расказвае Аляксандр Мядзведзеў, загадчык аддзела археалогіі сярэднявечнага перыяду Інстытута гісторыі НАН. — І такія падзеі адбываліся ў XI–XII стагоддзях не раз, пацверджаннем чаму знойдзеныя дэталі зброі, рыштунак коннікаў, наканечнікі стрэлаў і коп'і. Людзі, як правіла, сыходзілі ў замак са сваім скарбам, а пасады спальваліся.

Пра тое, што пасады, дзе сяліліся рамеснікі і купцы, усё ж былі, сведчаць нядаўнія знаходкі археолагаў: каля 40 пломб, якімі маркіраваліся тавары, што паступалі ў Мінск. Па іх бачна, з кім вялі гандаль нашы продкі: адны — з рысункам старажытнарускіх князёў, другія — з гербам горада Рыгі, трэція — з арабскай вяззю.

Сёлета работы ў гістарычным цэнтры горада археолагі разлічваюць працягваць. Замчышча плануецца абнавіць, аднавіўшы храмы і брамы, нават цэлыя вуліцы. І калі будзе магчымасць, спецыялісты паспрабуюць законсерваваць гэты цуд, каб потым паказваць турыстам.

ВЕСТКІ

# Сімвалы ўдзячнасці і веры

Рыгор Няфёдаў

**На гарадскіх могілках Беластока, каля мемарыяла салдатам Чырвонай Арміі, устаноўлены праваслаўны крыж у памяць пра савецкіх воінаў, якія загінулі пры вызваленні горада ў часы Другой сусветнай вайны.**

Ініцыятарам устанаўлення крыжа выступіў генеральны консул Беларусі ў Беластоку Міхаіл Аляксейчык. Ён адзначыў, што ў баях за вызваленне Беластока ў ліпені 1944 года загінулі тысячы савецкіх салдат, сярод якіх былі беларусы, расіяне і ўкраінцы праваслаўнага веравызнання. "Я гутарыў з мясцовым бацюшкам, і ён сказаў, што каля мемарыяла неабходна паставіць крыж, таму што ў месцах пахавання павінен быць сімвал веры. Так з'явілася гэта ідэя", — расказаў дыпламат.

У час цырымоніі крыж быў асвечаны капеланамі Войска Польскага праваслаўнага і каталіцкага веравызнанняў. Ва ўрачыстасці прынялі ўдзел дыпламаты, прадстаўнікі беларускай нацыянальнай меншасці, Пагранічнай варты і паліцыі Польшчы, афіцэры Войска Польскага, а таксама віцэ-прэзідэнт Беластока Аляксандр Сосна.

Праваслаўны крыж узвышаецца таксама каля магіл савецкіх салдат у горадзе Саколка каля Беластока. Сімвал веры быў устаноўлены год таму за сродкі дабрачыннага фонду "Памяць Афгана" і Генеральнага консульства Беларусі ў Беластоку.

# "Вяселле" ў двухмоўнай плыні

## Спектакль паводле п'есы А. Чэхава паставіў беларуска-расійскі творчы калектыў

Іван Ждановіч

Дзеля гістарычнай праўды дакладней было б сказаць, што гэты чэхаўскі твор вярнуўся ў рэпертуар тэатра. Бо на старой афішы менавіта чэхаўскае "Вяселле" значыцца ў ліку першых спектакляў, з якіх амаль 90 гадоў таму пачынаўся Нацыянальны акадэмічны тэатр імя Янкі Купалы. Аднак паспрабуем уявіць, што менавіта мы былі на тым свяце. І цяпер, знаходзячыся ў звышпаважаным узросце пракручваем у феерычнай тэатральнай машыне часу незабыўныя — і роспачныя, і салодкія —імгненні таго дня. Вось з такого рэжысёрскага хода — успаміну ўжо немалой нявесты — і пачынаецца спектакль "Вяселле".

Стваральнікі спектакля рызыкнулі вытанчана, далікатна сумясціць феерверкі маладой вясельнай энергіі з чэхаўскай бязмежнай тугой па душэўнасці, з яго спробай дакрычацца да таго Чалавека, які ёсць "образ и подобие". Ну вядома ж, уся калявясельная мітусня глядзіцца з вышыні пражытых гадоў зусім не такою, якой бачылася напрыканцы XIX стагоддзя мудраму і празорліваму Антону Паўлавічу. Ці тагачасны ягонай гераіні-нявесце. Яна, дарэчы, у спектаклі-саундраме "Вяселле" гаворыць выключна па-беларуску (заслужаная артыстка Беларусі Зінаіда Зубкова). І нават пераклада на ходзе вірлівай дзеі асобныя рэплікі вясельнай грамады для свайго рускамоўнага жаніха. → Стар. 4



БЕЛТА

Жыццёвае разуменне вяселля

# Адчуванне душэўнай цеплыні

## Малдаўская дыяспара ў Беларусі адзначыла нацыянальнае свята надыходу вясны — Мэрцішор. Месцам сустрэчы сяброў ужо ў шосты раз стала мінская бібліятэка №4

Ніна Шпакоўская

Паводле малдаўскай легенды, шмат гадоў таму на зямлі ўсталявалася працяглая зіма. Але аднойчы ў царства вечнага холаду завітала прыгажуня Вясна. Яна радавала людзей цёплымі промнямі сонца, таму мароз вырашыў паквітацца з парушальніцай яго законаў і параніў яе вострым ледзяшом. Але там, дзе капала кроў дзяўчыны, выраслі маленькія белыя кветкі — яны сталі сімвалам вясновага абуджэння.

— Сёлета свята Мэрцішор мы таксама прысвячаем 650-годдзю незалежнасці нашай краіны, якое будзе адзначацца летам, — расказала старшыня грамадскага аб'яднання «Абшчына «Малдова» Антаніна Валько. — Малдаване — жыццярадасны і энергічны народ. Куды б ні завеў нас лёс, мы не забываемся пра родныя традыцыі і падтрымліваем сваю культуру. Запрашаем усіх далучыцца да нашага свята і добрага настрою.

І я сярод іншых атрымала ў якасці сімвала вернасці і кахання маленькія мэрцішоры ў выглядзе дзвюх кветак – чырвонай і белай. Яны нагадваюць людзям пра першыя пралескі і пралітую на іх кроў. Гэтыя мілыя падарункі малдаване носяць увесь сакавік, а потым падвешваюць іх на пладовыя дрэвы ў пару цвіцення, наперад загадаўшы жаданне. Лічыцца, што тады людзям увесь год будзе спадарожнічаць удача, і запаветная мара абавязкова спраўдзіцца.


У святочных строях гэтых удзельніц Мэрцішора пераважаюць колеры вясны

У Беларусі жыве каля пяці тысяч малдаван, у Малдове нашых суайчыннікаў значна больш — каля 25 тысяч. «Калі ўдалечыні ад родных мясцін сустракаеш земляка, адразу адчуваеш цеплыню і падтрымку, — дзеліцца пачуццямі загадчыца бібліятэкі Алена Курбатава. — Гэта цудоўна, што малдаўская дыяспара не забывае родную мову і культуру. За шэсць гадоў супрацоўніцтва з імі я ўпэўнілася: гэта творчыя, гасцінныя людзі. Прыемна, што ў святе прымаюць удзел і ўнукі малдаўскіх сяброў».

Прысутных павіншаваў са святам пасол Малдавіі ў Беларусі Іван Філімон. Вакальная група «Плай» парадавала энергічнымі малдаўскімі песнямі. Нягле-дзячы на памацнеўшы мароз за вокнамі, тут адчувалася вясновая цеплыня, народжаная шчырасцю і згуртаванасцю людзей. Таму доўга не хацелася пакідаць утульны пакой, які не першы раз збірае аб'яднаных роднай зямлёй людзей.

# Без тэрміну даўнасці

Алена Давыдава

**Выйшла ў свет кніга "Увекавечанне памяці абаронцаў Айчыны і ахвяр войнаў у Беларусі. 1941–2008". Гэта першы на постсавецкай прасторы вопыт сістэматызацыі пошукавай працы.**

Больш года працавалі над выданнем работнікі Нацыянальнага архіва, гісторыкі і спецыялісты Міністэрства абароны.

— Існуе меркаванне, што амаль уся інфармацыя аб Вялікай Айчыннай сабрана ў Расіі. Тым не менш, многія дакументы, якія тычацца падпольнага і партызанскага руху ў гады вайны, засталіся ў нашай краіне, — расказаў на прэзентацыі кнігі кіраўнік упраўлення па увекавечванні памяці абаронцаў Айчыны і ахвяр войнаў Міністэрства абароны Беларусі Віктар Шумскі. — Даследаванне гэтай тэмы пачалося яшчэ ў 40-я гады мінулага стагоддзя і працягваецца па гэты дзень.

Летась дзякуючы вайсковаму асобнаму пошукаваму батальёну, які вядзе раскопкі на месцах баёў, у архівістаў і стваральнікаў базы дадзеных сайта www.obd-memorial атрымалася ўсталяваць імёны больш 400 загінулых.

— Нядаўна ў нас з'явіўся вопыт пошукавых прац на тэрыторыі Польшчы, — гаворыць Віктар Шумскі. — На пачатак вайны ў склад БССР уваходзіла Беластоцкая вобласць, цяпер Падляскае ваяводства. Там беларускія вайскоўцы выявілі рэшткі васьмі салдат. Збіраемся прыступіць да раскопак на месцы былога лагера для ваеннапалонных у Гродне. Гэта мала вывучаная і незаслужана забытая старонка нашай гісторыі. Людзі траплялі ў палон пасля адчайнага супраціўлення, многія раненымі або ў непрытомнасці. Для іх вайна скончылася ў чэрвені 41-га, але кашмар зняволення працягваўся…

Аднак усе працы пошукаўцаў былі б марныя без пісьмовага, сістэмнага падыходу да ўвекавечвання памяці загінулых. Новае выданне абяцае стаць карысным практычным дапаможнікам для мясцовых улад, якія прымаюць рашэнні аб перазахаванні загінулых салдат Вялікай Айчыннай вайны.

# Спрытныя і кемлівыя

**Гродзенскія кадэты перамаглі на ўсерасійскім злёце.**



Іх прафесія — Айчыну абараняць

Каманда навучэнцаў кадэцкіх класаў сярэдняй школы №28 Гродна заняла першае месца на сёмым усерасійскім злёце юных патрыётаў, які праходзіў пад дэвізам "За гонар Айчыны" ў Пермі. Праграма злёту была разнастайная і насычаная. Навучэнцы жылі ў лясным лагеры ў палатках з печкамі. Яны павінны былі прадэманстраваць уменне хутка раскласці агонь, арыентавацца на незнаёмай мясцовасці, рабіць марш-кідкі. Былі і іншыя няпростыя выпрабаванні на сілу, спрыт і кемлівасць.

Гэта, дарэчы, не першы поспех гродзенскіх кадэтаў. Яны ўжо ўдзельнічалі ў злёце кадэтаў у польскім горадзе Бяла-Падляска, дзе спабornічалі больш як пяцьдзесят маладзёжных калектываў. Гродзенцы занялі тады другое месца, саступіўшы толькі гаспадарам — польскай камандзе.

# Сябруюць універсітэты

Юлія Ваніна

**Беларускі дзяржаўны універсітэт і Універсітэт славацкага горада Жыліна падпісалі дамову аб супрацоўніцтве.**

Дамова прадугледжвае абмен студэнтамі, магістрантамі і аспірантамі для навучання і стажыравання, а таксама выкладчыкамі для чытання лекцый і правядзення навучальных заняткаў. Таксама прадугледжваецца абмен навучальна-метадычнай і навуковай літаратурай, правядзенне сумесных семінараў і канферэнцый, супрацоўніцтва ў рамках Балонскага працэсу. Акрамя таго, дасягнута дамоўленасць аб падрыхтоўцы некалькіх міжнародных праектаў. Адзін з іх скіраваны на супрацоўніцтва ў сферы выкарыстання інфармацыйных тэхналогій пры ранній дыягностыцы рака лёгкіх, а таксама стварэння неабходнага для гэтага абсталявання.

# Заўтрашні дзень Белавежскай пушчы

## Спецыялісты Нацыянальнага парку сумесна з вучонымі распрацавалі доўгатэрміновы план упраўлення прыроднай тэрыторыяй найстарэйшага ў Еўропе заказніка


Хутка ўладанні белавежскіх зуброў павялічацца

Вольга Кабякова

Доўгатэрміновы план упраўлення прыроднай тэрыторыяй Белавежскай пушчы — гэта сумесны праект Нацыянальнага парка і навукова-практычнага цэнтра Нацыянальнай акадэміі навук па біярэсурсах. Дакумент распрацаваны ў адпаведнасці з Дзяржаўнай праграмай развіцця асабліва ахоўных прыродных тэрыторый Рэспублікі Беларусь на 2008–2014 гады. Наяўнасць падобнага плану ўпраўлення – адна з асноўных умоў Дыплома Савета Еўропы, якога Белавежская пушча была ўдастоена ў 1997 годзе.

Неабходна адзначыць, што перш чым дакумент быў канчаткова выпрацаваны, праект плану атрымаў адабрэнне навукова-тэхнічнага савета Нацыянальнага парку "Белавежская пушча", прайшоў узгадненне ў Міністэрстве прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя, а таксама экспертызу ў Савеце Еўропы.

1920-я гады… Стары Мінск нясе на сабе адбітак лёсу ўсяе Беларусі – розных яе куточкаў. Мінск губернскі паступова пераўтвараецца ў сучасны прамысловы, культурны цэнтр. Аблічча ўсё яшчэ ранейшае, а вось паветра, дух, аура горада… І на старых паштоўках пачатку XX ст. – усё яшчэ тыя самыя, з пазнакай архітэктурнай памяці папярэдняга стагоддзя будынкі. Праўда, характар у большасці з іх зусім інакшы… Савецкія установы, новыя гасцініцы, якія належаць не прыватніку, а дзяржаве, ды і жылыя дамы, кватэры ў якіх падзелены перагародкамі…



Мінск. Губернатарская вуліца

# Знічкі Айчыны

Алесь Карлюкевіч

Так здарылася, так склалася, што лёс падараваў мне стасункі са многімі знаёмцамі з мінчан 20-х гадоў… Знайшоў іх па розных гарадах былога Саюза. Даводзілася гутарыць з мастаком, які заспеў яшчэ мастацкае жыццё сталіцы рэспублікі ў 1920-я — Давідам Ноевічам Габерманам. Пісаў не аднойчы пра вядомага майстра анімацыйнага кіно Леаніда Шварцмана (ён нарадзіўся ў Мінску ў 1920-м). На вуліцы Камуністычнай жыў у перадваенныя гады вядомы рускі пісьменнік Якаў Невахавіч Кумок, з якім лістуюся і цяпер. Усе гэтыя людзі, старажылы прысутнасці не проста ў жыцці, а ў культуры нашага грамадства, з высокім душэўным трапятаннем адгукаліся пра "свой Мінск"… А я ў стасунках з імі і іншымі землякамі думаў: які багаты наш галоўны горад на славутасці, на людзей дзеяздольных і энергічных!

Калі б можна было патрапіць у "жывы" гісторыка-архітэктурны ландшафт, што падказваюць нам старыя паштоўкі з выявамі мінскіх вуліц, то ў 20-я гады нас чакалі б унікальныя сустрэчы. Самыя розныя падзеі падштурхнулі б да размоў, дыскусій, дыспутаў, розных сходаў і вечарынак. На адкрыцці помніка Карлу Марксу ў 1922 г. мы, несумненна, заспелі б паэта Анатоля Вольнага. А колькі адметных асоб было сярод навучэнцаў педагагічнага тэхнікума, дзверы якога адчыніліся ў 1921 годзе! Што ўжо казаць пра адрасы, па якіх знаходзіліся Інбелкульт, Дзяржаўная бібліятэка БССР, Беларускі драматычны тэатр… І хаця часам кошт аднаго фунта чорнага хлеба складаў 11 тысяч савецкіх рублёў (прыкладам, у лютым 1923 г.), жыццё кіпела. Атмасфера развіцця, руху наперад патрабавала здзяйсненняў. І іх рабілі вучоныя і мастакі, пісьменнікі і акцёры, грамадскія і палітычныя дзеячы… Дык давайце ўзгадаем хаця б некаторых з зорак нашай Айчыны.

Розныя этапы ў гісторыі Мінска заспеў за час свайго жыцця жывапісец і педагог Якаў Кругер (нарадзіўся ў Мінску ў 1869 г., памёр у родным жа горадзе ў сакавіку 1940 г.). Атрымаўшы мастацкую адукацыю ў Варшаве і Пецярбургу, ён з 1921 г. працаваў на рабфаку Беларускага дзяржаўнага універсітэта. Гэта Кругер казаў пра сябе: "Я мастак Мінска". Вядома, што творчая спадчына яго — больш за 200 работ, а захавалася да нашых дзён, на вялікі жаль, зусім няшмат.





Мінск з вышыні птушынага палёту


Мінск. Касцёл святых Сымона і Алены



Мінск. Савецкая вуліца



Мінск. Набярэжная Свіслачы

…Мінск 1920-х — гэта і складаны, няпросты лёс Янкі Купалы і яго твораў. Падзеяй у тэатральным жыцці Мінска была пастаноўка п'есы Купалы "Тутэйшыя". Але і не толькі ўражлівым здабыткам нацыянальнай драматургіі сталася п'еса, а яшчэ і падзеяй, якая ўскалыхнула многія палітычныя хвалі. Нават закрытае пасяджэнне бюро ЦК КП(б)Б на гэты конт адбылося. З адпаведнага пратаколу ад 17 снежня 1926 г.: "Пастанавілі:

1. Прызнаць, што пастаноўкай п'есы "Тутэйшыя", якая заключае ў сабе элементы нацыянал-дэмакратызму, Наркамасветы, ГПП, Галоўліт і тэатр дапусцілі палітычную памылку.

2. Знішчэнне п'есы калегіяй Галоўліта лічыць правільным, адначасова адзначыць, што пры арганізацыйным правядзенні ў жыццё была зроблена памылка ў сэнсе няўзгодненасці пытання аб знішчэнні п'есы з адпаведнымі органамі Наркамасветы і інш.

3. Лічыць магчымым пастаноўку п'есы на сцэне пасля яе радыкальнай перапрацоўкі аўтарамі пасля таго, як перапрацаваная п'еса будзе прынята да пастаноўкі адпаведнымі органамі".

Такое вось было жыццё…

У 1886 г. нарадзіўся адзін са стваральнікаў беларускага прафесійнага тэатра Усевалад Фальскі. Яго імя згадваецца цяпер не часта, а між тым асоба дастаткова цікавая. У 1921 г. ён займаў пасады намесніка загадчыка аддзела мастацтваў, вучонага сакратара Акадэмічнага цэнтра Наркамата асветы БССР. З 1925 г. жыў у Кіеве, працаваў дырэктарам Драматычнага тэатра імя М. Занькавецкай.

У ліпені 1904 г. у Мінску нарадзілася Алеся Александровіч. Нядоўгі век быў адмераны гэтай каларытнай асобе. Гэта якраз яна была першай выканаўцай ролі Алесі ў музычнай драме Міхася Чарота "На Купалле" ў 1921 г. Аляксандра Іванаўна склала чытанкі для пачатковай школы, хрэстаматыі па роднай літаратуры. Напісала шэраг грунтоўных літаратуразнаўчых артыкулаў пра Янку Купалу, Цётку, Аркадзя Куляшова, Максіма Танка. У 1914 г. нарадзілася ў Мінску Любоў Якаўлеўна Бацвіннік. З 1930 г. яна працавала ў Камітэце па радыёфікацыі і радыёвяшчанні пры Саўнаркаме Беларусі. Для многіх пакаленняў мінчукоў і ўвогуле жыхароў Беларусі голас дыктара Любові Бацвіннік — своеасаблівы сімвал жыцця, пачуццяў і перажыванняў, выкліканых тым ці іншым паведамленнем, той ці іншай агульнаграмадскай падзеяй. У творчым багажы нашай зямлячкі — і радыёкампазіцыі па спектаклях Беларускага тэатра імя Янкі Купалы "Пакуль вы маладыя" (паводле І. Мележа), "Жан Крыстоф" (паводле Р. Ралана) ды іншыя творы, што і цяпер захоўваюцца ў фондах Белтэлерадыёкампаніі.

З яркіх асоб мінчукоў, хто бачыў ва ўсіх красках горад даваеннага часу, — і мастачка Раіса Уладзіміраўна Кудрэвіч, якая нарадзілася ў красавіку 1919 г. Атрымаўшы мастацкую адукацыю ў Віцебску, яна ва ўсе гады творчага лёсу верная тэме мінскага гарадскога жыцця. Узіраючыся ў яе карціны, малюнкі, як быццам акунаешся ў горад самых розных часоў. Хаця і ў графіцы, і ў жывапісных работах Раіса Уладзіміраўна часта звярталася і да вандроўных уражанняў, занатоўвала пейзажы Балгарыі, Расіі, Украіны… Ды ўсё ж мастацкі партрэт Мінска — найгалоўнейшы яе клопат. І чаму б часам рэпрадукцыі з работ Раісы Кудрэвіч не паставіць побач са старымі паштоўкамі? Паверце, добрых уражанняў ад такога асэнсавання мінуўшчыны у нас бы істотна пабольшала.

© В поисках утраченного

Паштоўкі з калекцыі Уладзіміра Ліхадзедава

# "Вяселле" ў двухмоўнай плыні

**(Заканчэнне. Пачатак на стар. 1)**

Цікавы культуралагічны стэрэаэфект: дзве моўныя плыні працуюць на сцэне арганічна, быццам дзве рукі. Прычым такая акцэнтацыя, двухмоўнае падкрэсліванне ключавых фраз чэхаўскага тэксту стварае свежыя, нечаканыя асацыятыўныя вобразы, калі мець на ўвазе шырокія — не толькі вясельныя — беларуска-рускія дачыненні.

Класіка, несумненна, заўсёды сучасная на сцэне, асабліва калі не сапсаваць яе слоем рэжысёрскага нафталіну. Удзельнікам жа сумеснага беларуска-расійскага праекта "Вяселле" аказалася пад сілу пераўвасобіць чэхаўскую п'есу на сённяшні лад жывою, вельмі вобразнаю сцэнічнаю моваю. На вачах гледачоў амаль два дзесяткі акцёраў, выконваючы свае адметныя ролі, усё ж жывуць як згарманізаваны аркестр. У гэтым — несумненная заслуга маскоўскага рэжысёра, музыканта, акцёра, кіраўніка студыі SOUNDRAMA Уладзіміра Панкова. Дарэчы, акрамя акцёраў, на сцэне ўвесь час вядзе цікавую сэнсавую лінію і апранутая матросамі дружная "каманда музыкантаў" Купалаўскага тэатра.

На прэс-канферэнцыі, арганізаванай у Купалаўскім тэатры з нагоды прэм'еры, маскоўскі рэжысёр высока ацаніў прафесіяналізм купалаўцаў, іх уменне чуць і разумець адзін аднаго, ствараць добразычлівую рабочую атмасферу як на рэпетыцыях, так і ў спектаклях, вынесеных на публіку. Так што "беларускі дух" аказаўся вельмі блізкім і духу чэхаўскага твора, і светаўспрыманню расійскага госця. Дарэчы, харэографам у спектаклі працавала масквічка Алена Багдановіч, яна мае ў Беларусі моцныя родавыя карані. У "Вяселлі" ж пластыка, рухі, міміка акцёраў іншым часам гавораць нават больш, чым словы.



П'есе "Вяселле" больш за сто гадоў, тым не менш у спектаклі вельмі сучасная сцэнічная мова

"Гэта прарыў!" — давялося пачуць у фае тэатра такую ацэнку ад гледачоў, калі ўжо адгрымеў шквал прэм'ерных апладысментаў. Вядома, прарыў! Бо калі ж гэта яшчэ акцёры саліднага акадэмічнага тэатра гаварылі такой экспрэсіўнай і поліфанічнай моваю? Прычым выдае на сцэне высакаякасны крэатыў не толькі ўспрымальная да павеваў часу купалаўская моладзь, але і занятыя ў розных саставах народныя артысты Беларусі Генадзь Аўсяннікаў (выключна цікавая роля вясельнага псеўдагенерала), Генадзь Гарбук, Мікалай Кірычэнка, Арнольд Памазан, заслужаныя артысты Зінаіда Зубкова, Наталля Качаткова, Тамара Нікалаева-Апіёк, Уладзімір Рагаўцоў. Так што чуткі пра тое, быццам "акадэмікам" не па плячы сучасная тэатральная стылістыка, аказалася яўна перабольшанымі. І гэткай сіле пранікнення сцэнічных мэтраў у складаныя чэхаўскія вобразы акцёрскай моладзі толькі павучыцца.

Спектакль, як гаварылася на прэс-канферэнцыі, пастаўлены да 150-годдзя А.П.Чэхава,якоекультурная грамадскасць рыхтуецца адзначыць у наступным годзе, і будзе прадстаўлены на Міжнародным тэатральным фестывалі ў яго гонар. Ужо сёння крытыкі прарочаць пастаноўцы доўгае сцэнічнае жыццё. Акрамя Купалаўскага тэатра, у рэалізацыі праекта ўдзельнічалі Міжнародная канфедэрацыя тэатральных саюзаў, дырэкцыя Міжнароднага тэатральнага фестывалю імя А.П.Чэхава пры падтрымцы Урада Расіі, Міністэрства культуры Беларусі і Урада Масквы.

# Самая лепшая дынаміка

Алена Прус

**2008 год стаў рэкордным у Беларусі па нараджэнні блізнят.**

У краіне ў 2008 годзе з'явіліся на свет 934 двойні, 18 трайнят 1 чацвярня. Аб гэтым паведаміла прэс-сакратар Нацыянальнага статыстычнага камітэта Алена Кандраценка.

Такім чынам, мінулы год стаў самым ураджайным на двайнят за апошнія некалькі гадоў. Для параўнання: 2007 год адзначыўся нараджэннем 930 двайнят, 18 трайнят і 1 чацвярні ("квартэт" малых нарадзіўся ў г.Касцюковічы Магілёўскай вобласці). У 2006 годзе ў Беларусі з'явіліся на свет 830 двайнят, 12 трайнят і 1 чацвярня (чацвёра малых нарадзіліся ў сям'і жыхароў Жлобіна). Дарэчы, першы беларускі феномен нараджэння чацвярні зафіксаваны ў 2004 годзе — "квартэтам" хлопчыкаў папоўнілася сям'я мінчан. Нараджэнне чацвярні — вельмі рэдкая з'ява, прычым не толькі для Беларусі. Па формуле амерыканскага вучонага Хелена, адна чацвярня прыходзіцца на 729 тысяч родаў.

Па статыстычных дадзеных, летась у краіне нарадзіліся 107 900 дзяцей — гэта больш чым на чатыры тысячы малых больш у параўнанні з 2007 годам. А ўсяго станоўчая дынаміка нараджальнасці адзначаецца ў Беларусі на працягу апошніх пяці гадоў.

# Кветкі ўпрыгожылі свята

Ірына Трубач

**На выставе да Дня жанчын, якая працавала ў Гродне, расцвіталі тысячы фіялак.**

Дырэктар Гродзенскага дзяржаўнага абласнога эколага-біялагічнага цэнтра дзяцей і юнацтва Святлана Зязюля ўдакладніла: выстава кветак праходзіла ў Гродне ўпершыню і мела вялікі поспех. Акрамя юнатаў, якія прадставілі каля 200 відаў фіялак, свае дасягненні ў вырошчванні гэтых першых кветак вясны паказалі і гродзенскія кветкаводы-аматары.



Першыя кветкі вясны заўсёды выклікаюць эмоцыі

На выставе можна было не толькі палюбавацца шматстайнай прыгажосцю фіялак, атрымаць ад спецыялістаў рэкамендацыі па іх вырошчванню, але і купіць расліны для дому ці ў якасці пяшчотнага падарунка жанчынам. Мяркуецца, што такія выставы пакаёвых кветак стануць штогадовымі.

"Наступную выставу мы плануем прысвяціць кактусам і сукулентам. Гэтыя непатрабавальныя госці з засушлівых краін карыстаюцца асаблівай папулярнасцю сярод аматараў пакаёвых раслін", — адзначыла С. Зязюля.

У Гродзенскай станцыі юннатаў сёлета юбілей: яна створана ў 1949 годзе, цяпер мае іншую назву: Эколага-біялагічны цэнтр дзяцей і юнацтва. У цэнтры займаюцца амаль 1000 юных эколагаў, працуюць гурткі акварыумістыкі, фларыстыкі, экалагічнай моды, ёсць і экалагічны тэатр.

# Памяць, якая баліць


Карціна І. Сталярова "Па партызанскіх сцежках"

Сяргей Кочатаў

**Выязныя экспазіцыі графічных работ заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі Івана Сталярова з цыкла "Партызанскі боль" наладзіў Віцебскі абласны музей.**

Найстарэйшы мастак Прыдвінскага краю, удзельнік партызанскага руху І. Сталяроў стварыў гэтыя творы амаль 40 гадоў. Сюжэтная аснова малюнкаў — успаміны аўтара аб рэальных баявых дзеяннях і партызанскіх буднях. Мастак са жніўня 1942 года ваяваў у складзе 1-й Беларускай партызанскай брыгады, якая дзейнічала ў Віцебска-Суражскім рэгіёне. Усе 100 графічных работ цыкла "Партызанскі боль" аўтар падарыў музею. Цяпер адміністрацыя музея вырашыла шырэй пазнаёміць з творчай спадчынай мастака жыхароў Прыдзвінскага краю.

Стартаваў праект адразу ў дзвюх музейных установах. У абласным цэнтры экспазіцыя з 36 работ арганізавана ў выставачнай зале Цэнтра сучаснага мастацтва, а астатнія творы адправіліся ў Шаркоўшчынскі раён. Потым "Партызанскі боль" мастака будзе прадстаўлены жыхарам Дубровенскага раёна. Выязныя выставы будуць праходзіць на працягу двух гадоў.

**Заснавальнік:** Рэдакцыя газеты «СБ»
**Рэдактар** Віктар Харкоў
**Адрас:** пр. Незалежнасці, 44, Мінск, 220005
**Тэлефон рэдакцыі:** +375 17 288—12—80; факс: +375 17 288—12—80
**Бюро па рэкламе:** Тэл. +375 17 290—60—11 **E—mail:** golas_radzimy@tut.by
Газета надрукавана ў Рэспубліканскім унітарным прадпрыемстве «Выдавецтва «Беларускі Дом друку»
**Аб'ём выдання:** 1 друк. арк. **Тыраж:** 2000 **Заказ:** 277
Пазіцыі рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках "Голасу Радзімы", могуць не супадаць.